30 ЛІПЕНЯ 1999г. ПЯТНІЦА

# НАВІНЫ

№85 (616) КОШТ СВАБОДНЫ




# Дзень Незалежнасці будзе Днём Перамогі. Калі-небудзь...

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ, Уладзімір ШЛАПАК (фота)

**На Дзень Незалежнасці, 27 ліпеня, старшыня беларускіх сацыял-дэмакратаў Мікола Статкевіч паказаў, як трэба годна праводзіць масавыя вулічныя акцыі, нават пры невялікай колькасці народу. Чатыры тысячы дэманстрантаў свабодна рухаліся па цэнтральных вуліцах Мінска, спявалі песні, скандзіравалі лозунгі і не забывалі забяспечваць «фронт работы» супрацоўнікам унутраных справаў.**

Ужо з самага пачатку шэсця арганізатар акцыі Мікола Статкевіч парушыў вызначаны Мінгарвыканкамам маршрут і павёў шэсце па вуліцах, дзе раней не ступала нага дэманстрантаў. Першай «пала» вуліца Веры Харужай. У натоўпе пакупнікоў, што вярталіся з Камароўскага рынку, загаварылі: «А зачем они все ходят?» (немаладая кабета пытаецца ў смуглявага мужчыны не нашага паходжання). Той кажа ў адказ: «Хотят донести до властей свои взгляды...» — «Какие взгляды?» — «Не знаю...Что жизнь наша им не нравится и президент тоже...»

...А тым часам на папярэджанне міліцыі аб парушэнні парадку правядзення акцыі мегафон старшыні БСДП(НГ) адказваў: «Можаце не слухаць, міліцыя нелегітымная».

Прайшоўшы гэтак пад гучнае скандзіраванне «Сёмы дзень без Лукі!» і «Жыве Беларусь!» па вуліцах Куйбышава і Багдановіча, у раёне Опернага тэатра шэсце павярнула ў бок цэнтральнага праспекта горада. ▶

*Заканчэнне на стар.3*



● Жывая творчасць масаў



● Сёмы дзень без прэзідэнта — «Развітанне славянкі»

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

### Старавойтава адправілі этапам у Оршу

НАВІНАМ стала вядома, што былога старшыню акцыянернага таварыства «Рассвет» Васіля Старавойтава адправілі агульным этапам з Бабруйска ў Оршу — адбываць тэрмін зняволення. Чаму Старавойтава накіравалі не канвоем у Мінск, як гэта планавалася, а агульным этапам у Оршу, невядома. У Гомелі былому старшыні «Рассвета» стала дрэнна, паведаміла яго дачка Таццяна. Нам невядома, дзе цяпер знаходзіцца Старавойтаў. Нагадаем, што Старавойтаў асуджаны да двух гадоў пазбаўлення волі, паўтара года з гэтага тэрміну ён адседзеў яшчэ пад следствам. Такім чынам, Васіля Старавойтава павінны вызваліць 11 лістапада гэтага года.

**Рыгор БУЯН**

### 100 мільёнаў долараў супраць Мілошавіча

Амерыканскі Сенат адобрыў законапраект, накіраваны на зняцце з пасады югаслаўскага прэзідэнта Слабадана Мілошавіча. Згодна з гэтым дакументам, ЗША выдаткуюць 100 мільёнаў долараў на «ўсталяванне дэмакратыі ў Сербіі і Чарнагорыі» – трэба разумець, дэмакратыі без Мілошавіча. Якія захады будуць прымацца для вызвалення краіны ад цяперашняга прэзідэнта, не расшыфроўваецца. Аднак за 100 мільёнаў долараў можна не толькі пазбавіць Югаславію Мілошавіча, але на рэшту яшчэ і «вырашыць беларускае пытанне», якое таксама вельмі непакоіць ЗША.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Семён Шарецкий под охраной

Виктория ТУРОВА

**Семёну Шарецкому, находящемуся сейчас в Литве, выделена государственная охрана.**

На минувшей неделе спикер Верховного Совета 13 созыва приехал в Вильнюс, опасаясь, по сообщениям литовской прессы, «преследования со стороны узурпировавшего власть в Беларуси Александра Лукашенко».

На пресс-конференции председатель литовского парламента Витаутас Ландсбергис сообщил, что обратился к министру внутренних дел страны с официальной просьбой выделить гостю охрану.

«Наш гость — высокопоставленное лицо, мой партнер, председатель парламента. Любое случайное недоразумение или происшествие с ним вызвало бы целый ряд кривотолков, политических осложнений, совсем ненужных слухов», — заявил Ландсбергис.

Начальник управления телохранителей департамента охраны руководства МИД Литвы Стасис Саболюс подтвердил информацию, что Шарецкому выделена охрана, а также автомобиль. ■

## ПАРТЫІ

## Што пераможа: вопыт або маладосць?

**Заўтра распачнецца шосты з'езд партыі і руху БНФ «Адраджэнне». Ад яго вынікаў будзе шмат залежаць у лёсе БНФ і беларускага адраджэнскага руху ўвогуле. Напярэдадні з'езда мы задалі па чатыры пытанні галоўным канкурэнтам — Зянону ПАЗЬНЯКУ і Вінцуку ВЯЧОРКУ.**

**1. Што будзе прапанавана Вамі на з'ездзе?**
**2. У чым Вы гатовыя саступіць сваім канкурэнтам, а ў чым не?**
**3. Якой бачыцца Вам будучыня БНФ у выпадку Вашай перамогі на з'ездзе?**
**4. Што будзе, калі Вы пацерпіце паражэнне?**



**Вінцук ВЯЧОРКА, намеснік старшыні БНФ**

1. Будзе прапанавана новая канцэпцыя работы палітычнай партыі. Пры ўмове выканання гэтай канцэпцыі Фронт мусіць кантраляваць на першапачатковым этапе да 35% электарата. Далей — болей.

2. Я не прыму сектанцтва з іхняга боку, далейшага жыцця ў віртуальным свеце, адарванасці ад праблемаў народа. Зараз у БНФ існуе сектанцтва ці, дакладней кажучы, імкненне выдумаць сцэнар нейкай казкі, пры выкананні якога раптоўна ўлада перайшла б ад Лукашэнкі да дэмакратаў. Цудаў не бывае, патрэбная цяжкая праца. І вось у гэтым я не саступлю.

3. На працягу двух гадоў — аднаўленне ўплыву партыі, які быў на пачатку 90-х, і паступовае яго пераўзыходжанне.

4. Паляпшэння ў БНФ тады не будзе, а ў перспектыве – значнае пагаршэнне становішча і магчымы развал БНФ.



**Зянон ПАЗЬНЯК, лідэр БНФ**

1. Усе прапановы будуць запісаныя ў дакладзе, які я дашлю на з'езд. Зараз даклад яшчэ не канчаткова падрыхтаваны.

2. А я не бачу ніякіх канкурэнтаў! Свабода Беларусі стаіць па-за ўсялякай канкурэнцыяй.

3. БНФ — шырокі вызвольны рух за незалежнасць Бацькаўшчыны і свабоду.

4. Гэта – рытарычнае пытанне. Мае канкурэнты ніколі не перамогуць!

**Пытанні задаваў Аляксей ШМЯЛЁЎ**

наша свабода

## НАДВОР'Е




**31 ліпеня і 1 жніўня** па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, без ападкаў, вецер паўночны, 5–10 м/сек. Тэмпература ноччу 9–14, днём 21–26 градусаў.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**440 000**




З МІКАЛАЕМ ХАЛЕЗІНЫМ

## ОБСЕрватория

Намедни глава Консультативно-наблюдательной группы ОБСЕ Ханс-Георг Вик собрал представителей различных партий и решил поговорить с ними о будущих выборах в Национальное собрание. Молодец глава миссии — заботится о нас, переживает. Когда я услышал об этой встрече, меня взволновал только один вопрос — кого господин Вик туда пригласил? Ведь рассматривать как серьезных игроков на политическом поле из числа партий можно лишь либералов Богданкевича, БНФ, социал-демократов Статкевича, калякинских коммунистов да отчасти БСДГ Шушкевича.

Помимо этих политических структур, глава миссии пригласил для консультаций партию женщин «Надзея», либерал-демократов Гайдукевича и белорусское объединение «Яблоко». Видимо, кулинар из господина Вика неважный — заставь его салат сделать, порубит в кучу селедку, ананасы и сало.

Назвать ЛДПБ оппозиционной партией — значит оскорбить ее лидера. Господин Гайдукевич призывает к объединению с Россией и поддерживает дружеские отношения с Саддамом Хусейном. На одном из митингов, который проводила ЛДПБ, в небе летал вертолет с огромным флагом этой партии. Вы когда-нибудь видели, чтобы во время митинга, проводимого оппозиционными партиями, по небу пронесся истребитель с бело-красно-белым стягом? Я тоже не видел.

Про женскую партию «Надзея» сказать ничего плохого не могу — женщины все-таки. Правда, и хорошего сказать нечего, кроме того, что она женская. Чего хочет эта партия, сколько в ней членов, что она сделала со времени своего основания — не знаю. Если я, журналист, не знаю, то что сказать о рядовых читателях.

Партия БелОЯ, которую возглавляет госпожа Абрамова, выглядит со стороны, как троянский конь Александра Лукашенко, скрипя и тарахтя въехавший в оппозиционный Минск. Само название «Белорусское объединение «Яблоко» звучит так же абсурдно, как «Российское движение «Белорусский Народный Фронт». ЛДПБ и БелОЯ участвовали в местных выборах, которые проводили власти и игнорировали оппозиционные демократические партии. Теперь будут участвовать в парламентских. Видимо, с тем же убогим результатом — места-то уже распределены. И отнюдь не главой миссии ОБСЕ.

## Чарговая аварыя ў метро

**Дзяніс НОСАЎ**

У сераду, 28 ліпеня, у сталічным метро зноў адбылася аварыя. На шчасце, без пацярпелых.

У 16:22 на перагоне паміж станцыямі «Кастрычніцкая» і «Пл.Перамогі» з-за паломкі счаплення (лопнула спружына) першы вагон цягніка адарваўся ад астатніх. Ва ўсіх вагонах спрацавала сістэма аўтаматычнага тармажэння, і поезд стаў у тунелі. Самастойна ў падобных выпадках цягнікі метро рухацца не могуць, таму быў спынены рух па ўсёй першай лініі і выкліканая выратавальная брыгада метрапалітэна. Спачатку з тунеля выцягнулі першы вагон, пасля — тры астатнія. Праз 45 хвілінаў пасля здарэння рух цягнікоў быў адноўлены.

Па словах кіраўніка метрапалітэна Аляксандра Андрэева, ніхто з пасажыраў па медычную дапамогу не звяртаўся. Хоць пацярпелыя маглі б быць: усё ж такі экстранная тармажэнне пасля высокай хуткасці. Плюс эмацыйны шок ад аварыі ды працяглага падземнага палону.

Нагадаем, што за мінулы месяц гэта другое надзвычайнае здарэнне ў метро. 13 ліпеня на гэтай жа Маскоўскай лініі ў цягніка падчас руху адказала кіраванне. ■

ФОТАФАКТ



Фота Ул.ШЛАПАКА

Усё цячэ, усё з мяне...

## ВС імкнецца аб'яднаць апазіцыю

**Рыгор БУЯН**

Падрыхтоўка да чарговай сесіі Вярхоўнага Савета 13-га склікання стала цэнтральнай тэмай паседжання Прэзідыума ВС 27 ліпеня. В.а. старшыні парламента Віктар Ганчар не назваў дакладнай даты сесіі, заявіўшы, аднак, што дэпутаты збяруцца ў канцы жніўня—пачатку верасня. Кіраўніцтва ВС плануе сабраць разам парламентарыяў, дэпутатаў ВС 12-га склікання, прадстаўнікоў усіх палітычных партыяў, грамадскіх аб'яднанняў, рэгіянальных СМІ ды іншых суб'ектаў, якія ўдзельнічаюць у палітыцы. ВС, па словах Віктара Ганчара, жадае аб'яднаць, згуртаваць вакол сябе ўсю апазіцыю, каб вярнуць Беларусь у поле «канстытуцыйнай законнасці». У планах кіраўніцтва Вярхоўнага Савета — агучыць праграму практычных дзеянняў аб'яднанай апазіцыі па аднаўленні канстытуцыйнай законнасці менавіта на сесіі. Пакуль жа ВС мае намер весці актыўныя кансультацыі, бо, як сведчыць практыка, аб'яднаць апазіцыю неймаверна цяжка.

Апроч таго, Прэзідыум ВС заслухаў выніковую справаздачу мандатнай камісіі. Па рашэнні кіраўніцтва, яна мусіць актыўна заняцца прыцягненнем да работы астатніх дэпутатаў (на сесіях заўсёды прысутнічаюць не больш як 40 дэпутатаў, хоць адмовіліся ўвайсці ў лукашэнкаўскую Палату прадстаўнікоў больш за 80 парламентарыяў — людзі баяцца страціць работу). На сесіі, заявіў В.Ганчар, дэпутацкіх мандатаў будуць пазбаўленыя 110 «палатачнікаў», якія пайшлі служыць рэжыму.

Варта яшчэ дадаць, што Прэзідыум ВС даручыў в.а. старшыні камісіі па міжнародных справах Анатолю Лябедзьку прадстаўляць інтарэсы парламента на судовым працэсе па справе Андрэя Клімава. ■

## Галадоўка Анатолю Селівончыку свабоды не дала

**Рыгор БУЯН**

27 ліпеня расійскі прадпрымальнік з Сургута Анатоль Селівончык, які знаходзіцца ў Гомельскім СІЗА, спыніў галадоўку. А.Селівончык адмовіўся прымаць ежу 15 ліпеня, калі яго ні за што ні пра што кінулі ў карцэр. І толькі з-за настойлівасці ягонага адваката Веры Страмкоўскай прадпрымальнік спыніў галадоўку. Праўда, за гэты час ён схуднеў на 20 кілаграмаў.

Адвакат Вера Страмкоўская сцвярджае, што яе кліент утрымліваецца зараз у надзвычай дрэнных умовах: у камеры на 8 чалавек размяшчаюцца 26 абвінавачваемых, якія «паміраюць ад спякоты, духаты, ад вільготнасці».

В.Страмкоўская і яе падапечны падалі чарговую скаргу ў Цэнтральны райсуд Гомеля на змяненне А.Селівончыку меры ўтрымання на падпіску аб нявыездзе.

Варта нагадаць, што А.Селівончык абвінавачваецца ў злосным хуліганстве — менавіта так расцэньвае следства ўдзел прадпрымальніка ў «гульні «Зарніца», якая праходзіла 30 чэрвеня ў вёсцы Мікалаеўка Светлагорскага раёна і падчас якой байцы-«беркутаўцы» праводзілі захват мясцовых жыхароў. Гэтая «гульня» закончылася дэпартацыяй 135 расійскіх падлеткаў і арганізатараў акцыі. А.Селівончык фінансаваў «Зарніцу», прымеркаваную да 55-годдзя вызвалення Беларусі ад фашыстаў. З 6 ліпеня бізнесмен утрымліваецца пад вартай. ■

СВЕДЧАННЕ

## Груз №...

**Валер ГРЫЦУК**

На Дзень Незалежнасці міліцыянты зрабілі шчырым грамадзянам падарунак: «хапун» быў карэктны, нас не білі.

27 ліпеня сапраўдныя патрыёты Беларусі адсвяткавалі блуканнем па вуліцах Мінска на чале са спадаром Статкевічам. Самае цікавае пачалося пасля 19:30. У гэты час на плошчы Перамогі ўжо практычна скончылася святкаванне Дня Незалежнасці. Прыйшоў час «хапуна». Вось як гэта адбылося са мной. Учатырох мы стаялі каля дзвярэй вялікага гастранома на пл.Перамогі, размаўлялі, елі марожанае. Раптам да нас падбягаюць нейкія людзі ў цывільнай вопратцы, хапаюць нас за рукі і цягнуць у тры аўтамабілі маркі «Масквіч-412». Ніякіх пасведчанняў не паказалі, прозвішчы і пасады свае назваць адмовіліся, і некуды павезлі.

Калі мяне везлі ў старэнькім «Масквічы» незнаёмыя людзі ў невядомым накірунку, я чуў іхнія перагаворы па радыё і зразумеў, што мяне, Homo Sapience, назвалі проста — «груз». На другім баку хвалі ўсё ўдакладнялі, колькі «грузу» — няўжо толькі адзін. Вось так сёння, 27 ліпеня 1999 года, на тэрыторыі Беларусі мірных законапаслухмяных грамадзянаў кваліфікуюць ужо як проста «груз»! Пакуль, дзякуй Богу, не №200, як калісьці загінуўшых савецкіх вайскоўцаў у Афганістане. Яшчэ не трупы. Пакуль... ■

ЦЫТАТА НУМАРА

> Мы пошли по самому демократическому пути, предоставив возможность людям говорить, писать, петь на том языке, который более всего удовлетворяет их самих.
>
> *Александр ЛУКАШЕНКО*
> *«Советская Белоруссия», 27 июля 1999 г.*

ЭКАНОМІКА

## МВФ вырашыў не выдзяляць Беларусі крэдытаў

**БелаПАН**

У Вашынгтоне адбылося штогадовае паседжанне Савета дырэктараў Міжнароднага валютнага фонду (МВФ), на якім разглядалася эканамічнае становішча ў Беларусі па выніках агляду місіі МВФ, што працавала ў Мінску ў траўні г.г. Савет вырашыў не выдзяляць Беларусі фінансавых сродкаў і па-ранейшаму абмежаваць дзейнасць фонду ў краіне тэхнічнай дапамогай. Акрамя таго, прынятае рашэнне не накіроўваць у Беларусь у бліжэйшы час новыя місіі.

Варта нагадаць, што Расія атрымала ад МВФ днямі 4,5 мільярды долараў. ■

## Знешні доўг Беларусі — амаль 1 мільярд долараў

**Ягор ЗВОННІКАЎ**

На сёння знешні доўг Беларусі складае каля 927 мільёнаў долараў ЗША. Гэтую лічбу абнародаваў міністр фінансаў Мікалай Корбут. Ён падкрэсліў пры гэтым, што «прымальны» для рэспублікі паказчык — ліміт доўгу — складае 2 мільярды долараў ЗША. Паводле словаў міністра, у парадку пагашэння і абслугоўвання знешняга доўгу была выплачаная сума, эквівалентная 70 мільёнам долараў ЗША. Праблема ж, паводле сцвярджэння М.Корбута, у тым, што сёлета паступленні ў бюджэт падаткаў у выглядзе валютных плацяжоў зменшыліся ў параўнанні з 1998 годам прыкладна на 30 працэнтаў. Міністр фінансаў Беларусі таксама прызнаў, што знешніх крэдытаў у краіну ідзе вельмі мала, у прыватнасці, у 1999 годзе паступіла толькі 10,5 мільёнаў долараў ЗША па старых крэдытных лініях, і прызначаныя гэтыя сродкі для суб'ектаў гаспадарання. ■

КАНФЕСІІ

## У Брэсце будуецца уніяцкі храм

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

Будаўніцтва уніяцкага храма — першага ў Брэсцкай вобласці за апошнія паўстагоддзя — вядзецца ў Брэсце. Сёння на тэрыторыі Брэсцкай вобласці дзейнічае каля 290 праваслаўных храмаў і каля 50 — каталіцкіх, многія з якіх уяўляюць сабою архітэктурную і гістарычную каштоўнасць.

Самая старая праваслаўная царква рэгіёна — Свята-Нікіцкая ў вёсцы Здзітава Бярозаўскага раёна, ёй 497 гадоў. З каталіцкіх храмаў дольш за ўсе стаіць на зямлі Брэсцкай вобласці касцёл Святой Тройцы, размешчаны ў вёсцы Ішкалдзь Баранавіцкага раёна, пабудаваны ў 1472 годзе. ■

СУСЕДЗІ

## Расійскія грузы будуць пад узброенай аховай

**Аляксей АРЭШКА**
**БелаПАН**

Дзяржаўным мытным камітэтам Расіі ўведзенае абавязковае ўзброенае мытнае суправаджэнне тавараў, якія перамяшчаюцца па тэрыторыях дзяржаваў-удзельніцаў Мытнага саюза (Беларусь, Расія, Казахстан, Кыргызстан і з нядаўняга часу Таджыкістан).

Згодна з адпаведным загадам, мытныя нарады будуць ажыццяўляць суправаджэнне тавараў і транспартных сродкаў ад любога мытнага органа адпраўлення, размешчанага на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі, да першага па шляху следавання мытнага органа, размешчанага на тэрыторыі Беларусі (як правіла, да дзяржаўнай мяжы).

Абавязковаму суправаджэнню падлягаюць падакцызныя тавары (алкагольная прадукцыя, этылавы спірт, тытунёвыя вырабы і г.д.), некаторыя іншыя спецыфічныя тавары. ■

КРЫМІНАЛ

## Банкір знойдзены мёртвым

**Канстанцін УВАРАЎ**
**БелаПАН**

27 ліпеня ў Магілёве ў сваім рабочым кабінеце быў знойдзены мёртвым намеснік дырэктара акцыянернага камерцыйнага банка «Пошук» Эдуард Шведаў. Згодна з асноўнай версіяй, банкір скончыў жыццё самагубствам. Прычыны гэтага пакуль застаюцца невядомымі. Вядома толькі, што ў пачатку цяперашняга лета пракуратура вобласці зацікавілася крэдытамі, выдадзенымі ў свой час банкам і дагэтуль не вернутымі, аднак прамой сувязі паміж гэтымі падзеямі пакуль не прасочваецца. Эдуард Шведаў быў адным з вядомых апошнім часам магілёўцаў-бізнесменаў. Напрыканцы 80-х гадоў ён узначальваў гаркам КПБ, камерцыйнай дзейнасцю стаў займацца пасля распаду СССР. ■

# Дзень Незалежнасці

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

Міліцыянты, якія да гэтага бяспечна ішлі побач з калонай, пачалі нервавацца. Прадчуванні іх не падманулі: за 50 метраў да праспекта натоўп павярнуў на вуліцу Інтэрнацыянальную, дзе шлях перагарадзілі 40 міліцыянтаў, і кінуўся на міліцэйскі кардон. Праз імгненне першы ланцуг ахоўнікаў парадку быў разарваны, але на другі моцы ў дэманстрантаў не хапіла, і, яшчэ крыху «папіхаўшыся» з міліцыянтамі, удзельнікі акцыі (на гэты момант іх паменшала прыкладна да паўтары тысячы чалавек) рушылі на праспект з яўным намерам прайсці на Кастрычніцкую плошчу.

Але там ужо чакалі ўзброеныя шчытамі і дубінкамі кардоны амона, пры позірку на якія многія адразу ўспомнілі памятны «Чарнобыльскі шлях». На гэты раз штурмаваць шэрагі бравых байцоў, якія ці то са страху, ці то для куражу калацілі дубінкамі ў шчыты, калона не збіралася. Дэманстранты паказыталі нервы амонаўцам, правялі тут жа імправізаваны мітынг, і спадар Статкевіч заклікаў усіх разыходзіцца. Тым часам у бок Кастрычніцкай плошчы праносіліся грузавікі з салдатамі. Улады былі ўсур'ёз напужаныя нахабствам невялікай купкі дэманстрантаў.

У раёне плошчы Перамогі людзей, якія вярталіся з акцыі, пачалі арыштоўваць. Першым быў затрыманы, канешне ж, сам Статкевіч. Усяго міліцыя «ўзяла» 30 чалавек, сярод якіх было чацвёра журналістаў і адзінаццаць непаўналетніх, якіх выпусцілі праз тры гадзіны. Астатнія 15 чалавек правялі ноч у спецпрыёмніку-размеркавальніку. Назаўтра адбыліся суды, Мікалая Статкевіча суддзя Іна Шэйко асудзіла да 10 сутак адміністратыўнага арышту. Пяцёра дэманстрантаў атрымалі па 20 мільёнаў штрафу, а шасцёра — папярэджанні. А маладому чалавеку па прозвішчы Асіноўскі пагражае крымінальная справа за тое, што ён пры арышце быццам бы збіў міліцыянта. Суды яшчэ над трыма дэманстрантамі перанесеныя на больш позні тэрмін. ■


Фота IREX/ProMedia

Беларускія кавалеры пад вокнамі мінскай прыгажуні


● Арганізатар шэсця **Мікола Статкевіч**


● Прорыў кардона праходзіў весела

СВЕДЧАННЕ

## «План» для сталічнай міліцыі

**Славамір АДАМОВІЧ**

...27 ліпеня 1999 года. 19:40 па мінскім часе. Круглая плошча. Толькі што закончылася святочна-пратэстнае шэсце з нагоды Дня Незалежнасці. Стаю ў кампаніі таварыша з газеты «Наша Ніва» і дзвюх дзяўчат, якія выпадкова трапілі ў нашую групу. Іграе гармонік, жанчыны — удзельніцы шэсця — спяваюць штосьці з народнага. 19:50. Забіраюць Міколу Статкевіча, арганізатара шэсця. 19:53. Міліцыянты падыходзяць да нас з таварышам. Адразу ж паказваем дакументы: пашпарт, карэспандэнцкае пасведчанне. Ім гэтага мала. Прапануюць прайсці ў аўтобус для... праверкі дакументаў. Гэта азначае толькі адно: нас затрымалі, каб адвезці ў райаддзел.

20:07. Прыязджаем у Савецкі РАУС. Поўна міліцыянтаў, бразгаюць шчытамі, але настрою нянавісці, абразлівых рэплікаў, лаянкі з іх боку не чуваць. Нас нават не прытрымліваюць за рукі, не падганяюць у плечы. У падвальнае памяшканне заходзім самі. Гэта клас, дзе міліцэйскія галовы напампоўваюць тэорыяй барацьбы з палітычна актыўнай часткай грамадства. 20:10. Мы не першыя, хто зайшоў у клас. За партамі ўжо сядзяць: журналіст Таццяна Снітко, мастак Яўген Кулік, дэпутат райсавета (не памятаю прозвішча), грамадзянін Расіі (патрабуе ці то консула, ці то пасла), дзве жанчыны маладога веку, якія наструньваюць мяне на эратычны лад. Хлопец, які разам з сяброўкай прыехаў на свята аж з Гродна, набывае ў мяне кнігу «Плавільшчыкі расы».

20:20. Таварыш мой трапіў у ментуру з палітычнай акцыі ўпершыню. Закідвае мяне пытаннямі, як і што. Дзялюся вопытам. 20:30. Даходзіць і да нас чарга — запісваюць пашпартныя дадзеныя. 20:37. Паступае першая каманда: журналістаў адпусціць. Але за прахадную мы выйсці не паспяваем — гучыць адбой. І ў гэтым няма нічога дзіўнага — міліцыянтаў у райаддзеле столькі, што яны літаральна стукаюцца адзін аб аднаго. Разморанnetwork, стомленыя гарачынёй і маразмам службы, «вартавыя парадку» думаюць толькі пра адно: як хутчэй адбыць змену. Начальству таксама хочацца дамоў, але самы галоўны начальнік патрабуе плана па затрыманых.

21:06. Трэці этап міліцэйскага даследавання нашых персонаў — найбольш цікавы. З падвала мы падымаемся на чацвёрты — апошні — паверх райаддзела. Тут, у адным з кабінетаў, нас фільмуюць на відэастужку. І яны, і мы — усе ў цывільным. Опер-апаратар дае дошчачку пад нумарам 18. Трымаю на ўзроўні дыяфрагмы. Гэтым разам, акрамя франтальна і ў профіль, фіксуюць яшчэ і мой тыл з коратка падстрыжанай патыліцай. Зрэшты, як і тылы астатніх затрыманых. Потым тры пытанні як адно: судзімасць, татуіроўкі, шрамы? Не без гонару адказваю: злева на патыліцы — шрам ад удару ні то міліцэйскай дубінкай, ні то рацыяй пры штурме тэлецэнтра на святкаванні 25 сакавіка ў 1996 годзе. Крымінальныя судзімасці — дзве, апошняя — паводле артыкулаў 67, 80, 213. Татуіровак не люблю. Няхай лепш жанчыны распісваюць маё цела пацалункамі.

21:16. Чацвёрты этап — дарэшты зморany міліцыянцік піша з маіх словаў тлумачальную. Напісаў. Пасля ягоных крамзоляў я стаўлю сваё. Усё паводле формы. Забіраю міжнародную прэс-карту і пакідаю райаддзел. Толькі сышоў з прыступак — вяртаюць. Раптам адзін з тых, што стаіць каля дзвярэй, заступае мне дарогу. Пакуль я спрабую зразумець, што тут да чаго, паміж міліцыянтамі ўзнікае перапалка. Нарэшце дамаўляюцца, і мяне ізноў запускаюць у райаддзел. Адказны начальнік папярэджвае: да абеда наступнага дня трэба прынесці даведку, што я прысутнічаў на шэсці па заданні рэдакцыі. У іншым выпадку — штраф альбо адміністратыўны арышт.

21:50. У памяшканні камернага тыпу застаецца сядзець Мікола Статкевіч. Прайшла грудастая міліцыянтка з белымі нагамі і пісталетам Макарава ў кабуры. Нас з таварышам адпусцілі. 22:15. У падвальчыку «Санча-Панса» бярэм па сто айчыннай. ■

ГРАМАДСТВА

## Рояль в кустах

**Александр ДУБРАВИН**

**Либеральных диктаторов не бывает. Все они любыми правдами и неправдами стараются упрочить свою незаконную власть при помощи насилия, маскируя отвратительное и грубое рыло видимостью заботы о народном благе. С особым цинизмом любят они рассуждать о законности, стоя на ее раздавленных останках. Вместо исполнения законов они сочиняют в изобилии свои предписания и требуют от всех остальных членов общества неукоснительного их соблюдения под страхом наказания.**

В этом смысле декрет № 29 под названием «О дополнительных мерах по совершенствованию трудовых отношений, укреплению трудовой и исполнительской дисциплины», сочиненный в недрах администрации Лукашенко, пунктуально следует традициям. Документ обладает полным набором качеств, присущих всем «указаниям дорогого товарища Лукашенко». Он грозен, многословен, неконкретен. Его свободно можно вертеть и так и сяк, трактуя применительно к ситуации, что очень удобно для чиновников всех калибров и дает большой простор для их фантазий.

В основе декрета — похвальное стремление власти перейти к давно назревшей контрактной системе трудовых отношений. Этому вопросу посвящены 2/3 его содержания. И при всем желании найти тематические изъяны или проблемы в этой части предписания, таковых обнаружится немного. Разве что сразу бросается в глаза идиотское стремление контролировать все и вся, неуклюже выраженное в пункте 2.10, где оговаривается увольнение работника за «неоднократное (дважды в течение полугода) представление в уполномоченные органы неполных либо недостоверных сведений». Этим пунктом в ранг трудовых обязанностей фактически вводится доносительство. В какие органы предоставляются сведения? Сведения о чем? Что служит мерилом полноты и достоверности предоставляемых сведений? Что будет, если сведения вообще не будут подаваться?

Пунктики вроде этого замаскированы в тексте всего предписания, как коровьи лепешки в густой траве. Сами по себе они безобидны, нейтральны и обусловлены темой, но в руках какого-нибудь законника способны обрести силу анафемского наказания. Например, обязанность работодателя проводить аттестацию работников раз в три года. (Какую? Как? Для чего?) В лучшем случае эта аттестация станет формальностью, вроде памятных всем нам ленинских зачетов. А в худшем — средством расправы с неугодными.

Подробно рассмотрев особенности белорусской контрактной системы, авторы предписания как бы между прочим вставили в текст свой любимый фитиль в виде пункта №5: «Считать неисполнение Конституции Республики Беларусь, решений Президента Республики Беларусь, законов Республики Беларусь, постановлений Совета Министров Республики Беларусь и судебных постановлений при осуществлении должностных обязанностей грубым нарушением трудовых обязанностей».

Появление фитиля вызвано, очевидно, попыткой руководителя страны застолбить захваченную территорию и принудить всех нас хоть косвенно, но признать его конституцию. Дескать, не признаешь мои законы — буду выкручивать руки.

У читателя документа сразу же возникает соблазн применить этот пункт по отношению к самому гр.Лукашенко и его окружению и уволить их за неоднократные грубые нарушения трудовых обязанностей, то есть, неисполнение Конституции, но вся соль декрета в том, что направлен он сверху вниз, а не наоборот. Механизма увольнения главного законодателя в нем не предусмотрено. Все эти пункты, сноски, дополнения, определения и т.п. для того и написаны, чтобы грозно напомнить всем сомневающимся, что «маразм крепчает», а диктатура цементируется. В нынешних условиях декрет №29 есть не что иное, как новое средство давления на непокорных, изощренный инструмент лицемерной политики нынешнего режима.

Он, по большому счету, не решит проблем производственной дисциплины, ибо дисциплина зависит не от строгости наказания, а от его неотвратимости. Он не улучшит экономическую ситуацию, ибо даже самая дисциплинированная армия беспомощна, если ею руководит бездарный и трусливый полководец. Он не повысит производительность, ибо власть делает вид, что платит за труд, а трудящиеся делают вид, что работают.

Это, по-видимому, не последний декретный припадок нынешней власти. Экономическая ситуация в стране стремительно ухудшается. Будем ждать новых грозных декретов, постановлений, указаний, предписаний, распоряжений, совещаний, резолюций, телефонограмм и т.п.

Контора пишет... ■

ГОЛАС ВУЛІЦЫ

**Як часта вы можаце дазволіць сабе набыццё гародніны і фруктаў, і якіх?**


**Інеса Пятроўна, пенсіянерка**

— Ой, якое вы дурное пытанне пенсіянерцы задаяце. Што ж на цяперашнюю пенсію набудзеш? Добра, каб на бульбу хапіла. Ну, зусім рэдка памідоры. Зусім маленькая пенсія!


**Вікторыя КАНДРАЦЕНКА, інжынер**

— Персікі, дыні, кавуны яшчэ ні разу ў гэтым годзе не набывала. Зрэдку бананчыкі, клубніцы. Тое, што патанней, і то вельмі рэдка.


**Анатоль, пенсіянер**

— Ну вы што, самі не ведаеце? Канешне, даволі рэдка! Бульбу купляем, агуркі, памідоры. Ёсць сын, таму калі-нікалі які банан купляем.


**Наталля, студэнтка**

— Ну, мае бацькі даволі часта набываюць і дыні, і кавуны, яны нядрэнна зарабляюць. А я сама пакуль што не зарабляю.


**Уладзімір, работнік МГТС**

— Раз на месяц у зарплату магу нешта сабе дазволіць набыць. Дзецям — памідоры, калі-нікалі бананы. Заробак мізэрны, што ж тут купіш?!


**Таццяна КУРЦ, педагог**

— Вельмі-вельмі рэдка. Раз на месяц. Вось за лета разы тры набываем бананы, лімоны, што ж яшчэ. На ананасы грошай няма. Крызіс у краіне, з кожным днём усё горш, якія ўжо тут дыні... А ў мінулыя гады часцей набывалі.

**Апыталі Аляксей ШЫДЛОЎСКІ, Уладзімір ШЛАПАК (фота)**



